*Людзьмі звацца!*
*Янка Купала.*

# СПРАВА

№ 15
Верасень
2012 г.

http://vk.com/id168308417

*Выдаецца з лютага 2012 г.*

ІНФАРМАЦЫЙНА - ГРАМАДСКІ БЮЛЕТЭНЬ МАГІЛЁЎСКАГА РАЁНА

ВЫБАРЫ 2012

## ЗАТРЫМАНЫ КАНДЫДАТ У ДЭПУТАТЫ

Леанід Падбярэцкі, кандыдат у дэпутаты па Магілёўскай-Ленінскай выбарчай акрузе № 84, чакаў на свой пікет намесніка кіраўніка кампаніі "Гавары праўду" Андрэя Дзмітрыева.

Але калегі не сустрэліся. Андрэй Дзмітрыеў толькі заехаў у Магілёў, як яму паведамілі па тэлефоне, што міліцыя палічыла пікет несанкцыянаваным.

Як паведаміў адзін з актывістаў "Гавары праўду" з групы падтрымкі кандыдата ў дэпутаты, агітацыйны пікет праходзіў каля гандлёвага цэнтра "Крыніца". Праз дваццаць хвілін пасля пачатку да іх пад'ехала міліцэйская машына, з якой выйшлі два супрацоўнікі ў чыне маёраў. Яны паведамілі прысутным, што пікет не санкцыянаваны мясцовымі ўладамі, як таго патрабуе выбарчае заканадаўства. Пасля гэтага ўсе агітацыйныя матэрыялы былі пагружаныя міліцыянтамі ў службовую машыну.

Кандыдат у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Леанід Падбярэцкі затрыманы і дастаўлены ў РАУС Ленінскага раёна Магілёва.

## ЗА ВЫКАРЫСТАННЕ ГЕРБА МАГІЛЁВА - ШТРАФ

Калі Аксана Закрэўская не зафарбуе геральдычны знак на сваіх улётках і плакатах, яе аштрафуюць на 2 млн. рублёў.

Кандыдат у дэпутаты ад "Гавары праўду" звяртае ўвагу на тое, што ёй ніхто не зрабіў ніякіх заўваг, калі яна друкавала сваю прадукцыю і падавала макеты ў акруговую камісію.

У панядзелак у акруговую камісію № 87 на яе прыйшла скарга з Магілёўскага гарвыканкама. У камісіі Закрэўскай рэкамендавалі выправіць агітацыйныя матэрыялы. Інакш будзе штраф і папярэджанне. Сама кандыдатка кажа, што выправіць агітацыйную прадукцыю цяпер немагчыма: усе ўлёткі і плакаты ўжо распаўсюджаны і расклееныя па тэрыторыі акругі.

Праваабаронца Барыс Бухель заяўляе, што патрабаванне камісіі незаконнае, бо герб выкарыстаны не з камерцыйнымі мэтамі. Герб - гэта спадчына ўсіх магілёўцаў, а не ўласнасць гарвыканкама, падкрэсліў Бухель.

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*
Паводле charter97.org, Еўрарадыё.

## Арэнда супраць прадпрымальнікаў




Магілёўскія прадпрымальнікі, якія арандуюць памяшканні па вуліцы Ленінскай, 21 у цэнтры Магілёва, заяўляюць, што арэндадаўца «Гарводаканал» змушае іх ліквідаваць свой бізнэс.

З 2007 па 2010 год у гэты стары будынак з драўлянымі перакрыццямі былі пераведзеныя з Цэнтральнага дома быту каля 20 дробных прадпрымальнікаў, якія аказваюць бытавыя паслугі насельніцтву. *«Мы пераехалі сюды не па сваім жаданні. Таму што Цэнтральны дом быту быў прададзены. Мы там пастаянна аплачвалі ўсе выдаткі. Памяшканні тут былі ў жудасным стане, кожны ў сябе рабіў рамонт»*, - распавядае старшыня грамадскага аб'яднання прадпрымальнікаў Магілёўскай вобласці Таццяна Казлоўская. Яна падкрэслівае, што для яе арганізацыі, а таксама для тых прадпрымальнікаў, якія аказваюць дробныя бытавыя паслугі насельніцтву, ўрад устанавіў льготы па арэнднай плаце.

*«Калі нам даюць льготы, то пралічана, каб мы маглі плаціць менш»*, - кажа Святлана Пархоўчанка, якая займаецца аказаннем паслуг па вырабу і рамонце трыкатажных вырабаў. Паводле яе слоў, ёй давядзецца сысці з будынка, каб неяк ратаваць бізнэс.

*«Зачыню бізнэс, людзі не змогуць плаціць больш у разы за рамонт парасонаў»*, - заяўляе майстар па рамонце парасонаў Міхаіл Даніловіч.

Да апошняга часу будынак па вуліцы Ленінскай быў на балансе прадпрыемства «Рэмбудмантаж», аднак у чэрвені яго змяніла Магілёўскае гарадское камунальнае унітарнае прадпрыемства «Гарводаканал».

*(Заканчэнне на с.2)*

## ПАНШЧЫНА Ў СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСІ

Калі едзеш у кірунку Вільні і за спіной застаецца пагранпераход Катлоўка (Лаворышкі), міжволі ўспамінаеш словы: *"У Беларусі ўсё чыста і палі засеяныя"*. У Літве, прыдарожная паласа някошаная балотная, а чацвёртая ці пятая частка зямлі вакол дарогі не апрацоўваецца.

Вось яна, еўрапейская дэмакратыя! Там чыноўнікі не могуць замацаваць ўчасткі дарогі за прадпрыемствамі (якія, вядома, знаходзяцца ў прыватных руках) і загадаць *"скасіць траву ў лесе да такога-то чысла"*. Як і мэр горада не можа даць школам загад - *"Дасланць заўтра настаўнікаў з вёдрамі да ратушы - паедуць прыбіраць бульбу"*.

Бо там цэняцца законы, і ўлады не могуць прымусіць грамадзян і юрыдычных асоб рабіць тое, што па закону яны рабіць не абавязаныя. Паколькі там пануе разуменне, што кожная праца павінна аплачвацца.

А вось у нас добраўпарадкаванне і сельская гаспадарка ў значнай ступені падтрымліваюцца за кошт бясплатнага прымусовай працы, своеасаблівай паншчыны.

Існуюць два варыянты прымусовай працы - або рабочых забіра-



*Навучэнцы Кадзінскай школы Магілёўскага раёна на ўборцы ўраджаю*

юць з асноўнай працы, і за іх стараннасць на высечцы хмызнякоў або ўборцы бульбы плаціць прадпрыемства, дзе яны працуюць. Ці працоўныя працуюць у свой выхадны і за працу атрымліваюць «дзірку ад абаранка».

Трэба таксама ўлічваць, што прадпрыемствы спальваюць бензін і салярку, каб даставіць рабочых на месцы прымусовых работ. Заводы маюць навязаныя ім "падшэфныя" гаспадаркі, на якія таксама марнуюць вялікія сродкі. Школьнікі і студэнты замест вучобы прыбіраюць за капейкі гародніну ў гаспадарках.

Але акрамя "паншчыны" ёсць яшчэ і "чынш". Бізнэсмэнаў рэгулярна і настойліва "просяць" набыць сёе -тое або пералічыць грошы на нейкія мэты. Супрацоўнікаў многіх арганізацый прымушаюць за свае грошы выпісваць дзяржаўныя газеты. Настаўнікі і работнікі культуры часта скідаюцца са сваіх заробкаў, каб выканаць даведзены ім зверху "план платных паслуг".

Можна толькі здагадвацца аб аб'ёме ўсёй гэтай "ценявой эканомікі", якая працуе на падтрымку сельскай гаспадаркі і паказнога парадку.

Па ўсёй краіне людзі працуюць бясплатна, каб выканаць "даведзеныя паказчыкі" і стварыць карцінку прыгажосці і стабільнасці. Абы было чыста і каб палі былі апрацаваныя.

*Падрыхтаваў Міхась БАРАЗНА.*
Паводле westki.info

## ПРАЕЗД ЗНОЎ ПАДАРАЖЭЕ

Ужо ў кастрычніку гэтага года зноў вырасце кошт праезду ў гарадскім транспарце. Цяпер за праезд у аўтобусе ці тралейбусе прыйдзецца заплаціць 1400 рублёў. У мінулы раз праезд даражэў ў сакавіку 2012 года. На гэты раз праезд падаражэе ўсяго на 7%, аднак гэта пацягне за сабой і рост коштаў на праязныя білеты. Больш да канца года праезд даражаць не будзе – згодна з графікам павышэння кошту праезду, падаражэнне можа адбывацца ўсяго два разы на год. Так як у сакавіку цана на квіточкі ўжо расла на 200 рублёў, новае падаражэнне будзе апошнім у 2012 годзе.

Ці вырастуць кошты на праезд у маршутках, пакуль невядома. Уладальнікі маршрутак могуць ўсталёўваць іх незалежна ад дзяржаўных падаражэнняў.

*Міхась БАРАЗНА.*

# Арэнда супраць прадпрымальнікаў

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1)*

Яго кіраўніцтва палічыла, як распавядаюць «іпэшнікі», што яны плацяць занадта малую для цэнтра горада арэндную плату, і павялічыла сумы на ўтрыманне і эксплуатацыю займаных памяшканне не менш чым у 3 разы. Пры гэтым, як сцвярджаюць прадпрымальнікі, у дадатковых пагадненнях да дагавораў арэнды, якія яны падпісалі, не былі паказаны новыя калькуляцыі выдаткаў, таксама не было ніякіх тлумачэнняў новых разлікаў.

На «бытавікоў» зараз ўскладзены аплата працы двух вахцёраў. Акрамя таго, арандатары абавязаныя аплачваць так званую «трывожную кнопку», якую павінен націснуць вахцёр пры якім-небудзь злачынным замаху на памяшканні. Адначасова з гэтым, прадпрымальнікі, на думку кіраўніцтва «Гарводаканала», павінны аплачваць і несці адказнасць за электраправодку ад электрычнага шчытка да свайго працоўнага месца.

Па падліках Казлоўскай, у месяц заробак двух вахцёраў складае каля 6 млн рублёў. *«Для нашай арганізацыі ўжо зараз без ацяплення выскачыла сума 670 тыс. рублёў»,* - кажа старшыня арганізацыі.- *«Вахцёр не з'яўляецца нашым работнікам. Ён з'яўляецца работнікам «Гарводаканала». Чаму мы павінны аплачваць яго працу, калі ён нам наогул не патрэбны?»,* - пытае Казлоўская. Яна паказвае, што вахцёры працуюць толькі з 8.00 да 20.00, калі ўсе прадпрымальнікі знаходзяцца на працоўных месцах, і ім ніякай аховы ад кліентаў не патрабуецца. Уначы жа будынак увогуле нікім не ахоўваецца, адпаведна, патрэбы ў «трывожнай кнопцы» няма.

Прадпрымальнікі ўжо напісалі калектыўныя лісты ў «Гарводаканал», Камітэт дзяржкантролю. «Бытавікі» лічаць, што іх папросту выжываюць з будынка, каб потым яго камусьці прадаць. На іх думку, ад гэтага пацерпяць толькі магілёўцы, якім, дзякуючы малому бізнэсу, і аказваюцца дробныя паслугі.

*Падрыхтаваў Антон ДУБАЛОМАЎ.*
Паводле «Ежедневник».

# Збіраем на кнігу Семяновіча

Музэй гісторыі Магілёва працягвае сваю ініцыятыву — збірае ад усіх ахвотных грошы на выкуп знакавых артэфактаў беларускай гісторыі.

Пасля паспяховага набыцця Статуту ВКЛ, на які сабралі ажно 45 тысяч даляраў, чакаюць ахвяраванняў на кнігу Казіміра Семяновіча «Вялікае мастацтва артылерыі».




Дырэктар музея Аляксей Бацюкоў паведаміў, што кніга каштуе 15 тысяч еўра. На гэты момант сабрана прыблізна 5100 еўра.

Гэтая кніга важная для Беларусі. Яна выдадзеная шляхціцам Вялікага княства Літоўскага Казімірам Семяновічам у Амстэрдаме ў 1651 годзе на лацінe. Потым на французскай мове ім жа прадубляваная. У ёй была ўпершыню сфармуляваная думка пра стварэнне шматступенчатай ракеты. Сама гэтая кніга стала падручнікам для артылерыстаў тагачаснага свету і была напісаная чалавекам, які сам сябе называў ліцьвінам. Беларускія гісторыкі знаходзяць уладанні яго сям'і на Віцебшчыне і на Магілёўшчыне. Гэтая асоба вельмі важная для гісторыі ВКЛ. А паколькі Музей гісторыі Магілева першачаргова засяроджаны на эпосе Магдэбургскага права — гэта 16–18 стагоддзі — то спадчына ВКЛ для усіх нас вельмі важная. Таму і ўзяліся за выкуп гэтай кнігі.

*Падрыхтавала Юлія БРУК.*

## КРЫМІНАЛЬНЫ ЭКСПРЭС

1 верасня каля 22.00 непадалёк ад вёскі Палыкавічы-2 22-гадовы жыхар г. Магілёва на аўтамабілі Renault Safrane выехаў на сустрэчную паласу і сутыкнуўся лоб у лоб з аўтобусам «ПАЗ 3205». Ад удару аўтамабіль практычна склаўся напалам. Ратавальнікі вызвалілі кіроўцу, аднак ён памёр. Аўтобус ПАЗ, які належыць упраўленню адукацыі Магілёўскага аблвыканкама, на шчасце, апынуўся без пасажыраў. Кіроўца аўтобуса застаўся жывы.

У Магілёве кіроўца "Форд Сьера" выехаў на пешаходную частку і урэзаўся ў прыпынак, дзе ў гэты момант знаходзіліся дзве жанчыны. Трагедыя адбылася ўвечары на вуліцы Гомельскае шаша. 35-гадовы вадзіцель "Форда", мясцовы жыхар, пры абгоне сутыкнуўся з "Аўдзі А6", якая рухалася ў спадарожным напрамку. Пасля чаго кіроўца "Форда" не справіўся з кіраваннем, выехаў на правы тратуар і наехаў на жанчын, якія стаялі на прыпынку грамадскага транспарту. У выніку абедзве пацярпелыя, мясцовыя жыхаркі 1966 і 1960 года нараджэння, былі шпіталізаваны з рознымі траўмамі ў Магілёўскую бальніцу хуткай медыцынскай дапамогі. Адна з іх ноччу памерла ад раненняў



Былы намеснік старшыні Магілёўскага гарвыканкама Уладзімір Ціток асуджаны на 3 гады з канфіскацыяй маёмасці за перавышэнне ўлады і крадзеж. Курыруючы працу будаўнічай галіны і службы па землеўпарадкаванню, былы намеснік старшыні гарвыканкама, скарыстаўшыся службовым становішчам у карыслівых мэтах, арганізаваў выдзяленне на падстаўную асобу зямельнага ўчастка ў прэстыжным раёне Магілёва. Каб мінімізаваць выдаткі на будаўніцтва на атрыманым участку ўласнага прыватнага дома, чыноўнік звярнуўся да дырэктара ААТ "Прамжылбуд" Леаніду Балдзенка з просьбай прадаставіць яму без заключэння адпаведнага дагавора і аплаты неабходную спецыяльную тэхніку, грузавы аўтатранспарт, будаўнічыя матэрыялы, а таксама накіраваць на аб'ект рабочых будаўнічых спецыяльнасцей. Дырэктар прадпрыемства арганізаваў з кастрычніка 2007 года па кастрычнік 2009 года вытворчасць работ, звязаных з будаўніцтвам прыватнага дома. У выніку чаго ААТ "Прамжылбуд" быў нанесены ўрон у буйным памеры.

Суд прызначыў Уладзіміру Цітку пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам на 3 гады з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых абавязкаў. Дырэктару будаўнічай арганізацыі Леаніду Балдзенка суд вынес аналагічны прысуд, але з адтэрміноўкай яго выканання на 2 гады. У бліжэйшы час ён будзе адхілены ад займаемай пасады. Прысуд суда Ленінскага раёна горада Магілёва пакінуты без змены, а касацыйныя скаргі абвінавачаных – без задавальнення.

*Падрыхтаваў Алесь СУВОРАЎ.*

# ПІСЬМЕННІКІ Ў ГВАРДЗЕЙЦАЎ



2 верасня 2012 года ў 188 гвардзейскай Ноўгарадскай Чырвоназнамённай, ордэнаў Суворава і Багдана Хмяльніцкага інжынерна-сапёрнай брыгадзе, што месціцца ў Магілёве, адбылася літаратурна-музычная вечарына, прысвечаная 130 - годдзю з дня нараджэння Янкі Купалы і Якуба Коласа. Вечарыну арганізавала магілёўская гарадская бібліятэка імя К.Маркса. Прысутныя ўважліва агледзелі кніжную выставу, праслухалі прапанаваную кампазіцыю пра жыццёвыя шляхі беларускіх песняроў, а таксама вершы ў выкананні артыстаў народнага тэатра Палаца культуры вобласці і песні на вершы Я.Купалы ў аўтарскім выкананні кампазітара Міколы Яцкова. Заключным акордам вечарыны стала выступленне паэта Эдуарда Акуліна. Ён павіншаваў гледачоў са святам беларускага пісьменства і друку, які адзначаўся ў гэты дзень. Знаходзячыся сярод вайскоўцаў, Э.Акулін распавёў пра асабліваці лёсу сваіх сваякоў, якія прайшлі праз полымя Афганістана і прачытаў сваю баладу, прысвечаную афганскім падзеям. А потым загучалі звонкія струны акулінскай гітары, і прысутныя з задавальненнем паслухалі некалькі песен, у тым ліку і знакамітую *"Янка Купала ідзе..."*

*Сяргей ПІСЬМЕННЫ.*

"СПРАВА"
Инфармацыйна-грамадскі бюлетэнь Магілёўскага раёна Магілёўскай вобласці, Рэспубліка Беларусь.
Выданне здзяйсняецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь "Аб сродках масавай інфармацыі".

Заснавальнік і адказны за выпуск - Мікалай Адамавіч ЯЦКОЎ
Адрас: 213107 Магілёўскі раён, в.Брылі, вул. Юбілейная 6 - 7
тэл. маб. +375293732886
e-mail: bryli@mail.ru

Матэрыялы друкуюцца на мове аўтараў.
Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў.
Звярстана і надрукавана на ўласным абсталяванні.
Падрыхтавана да друку *15.09.2012. 21.00.*
Наклад 299 асобнікаў. Распаўсюджваецца бясплатна.

«СПРАВА» заўсёды на www.kamunikat.org/